# ІНФОРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛКООПСАЮЗУ

ВЫХОДЗІЦЬ
АДЗІН РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

5-га КАСТРЫЧНІКА 1928 г.



# № 1

ПЕРШЫ ГОД
ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ БЕЛКООПСАЮЗУ



# Зьмест



## Да ўсіх організацый спажыўкоопэрацыі БССР

**Сёньня мы выпускаем № 1 „Інформацыйнага Бюлетэню Белкоопсаюзу" і пасылаем яго ўсім нашым організацыям.**

Мэты і задачы Бюлетэня вызначаны ў сёнешняй перадавіцы. Бюлетэнь павінен будзе зьявіцца настольнай кнігай-справачнікам у працы кожнага Спажыўсаюзу і Аддзяленьня, кожнага ЦРК і спажыўтаварыства, кожнага працаўніка коопэрацыі: інструктара, члена праўленьня, рахункавода, члена рэвізыйнай, оргасьветнай і крамавай камісіі.

Выходзіць будзе Бюлетэнь адзін раз у тыдзень.

**Наступны нумар Бюлетэня Вам будзе высланы, калі атрымаем ад Вас падпіску на патрэбную Вам колькасьць экзэмпляраў.**

Умовы падпіскі глядзеце на 4-й старонцы вокладкі Бюлетэню.

**Рэдакцыя.**

*Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!*


# ІНФОРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛКООПСАЮЗУ

ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Адрас: Менск, Савецкая вул., № 43.

№ 1 | 5-га кастрычніка 1928 г. | № 1




## Задачы нашага бюлетэню

Рост сыстэмы спажывецкай коопэрацыі, са ўсё ўзрастаючай яе рольлю ў народнай гаспадарцы, ускладняе работу і вымагае ад работнікаў, папершае: большых ведаў, навыкаў і тэхнічнай граматнасьці і, падругое, — быць больш у курсе ўсіх выданых і нанава выдаваемых нашай дзяржавай, рэгулюючымі органамі, законаў і палажэньняў, якія вызначаюць політыку як агульнага разьвіцьця сыстэмы, так і яе ўдзелу ва ўсёй народнай гаспадарцы краіны. Бюлетэнь, які выпускаецца Белкоопсаюзам, па нашай думцы, зьявіцца вялікай дапамогай у ажыцьцяўленьні гэтых задач, і ў выданьні такога бюлетэню насьпела вялікая неабходнасьць.

Той актыў, які ўцягнуты ў работу коопэрацыі, расьце на коопэрацыйнай рабоце, патрабуе яшчэ большай дапамогі з нашага боку па цэлым шэрагу пытаньняў. Да нас штодня прыходзяць цэлыя пачкі розных запытаньняў, якія патрабуюць тлумачэньня як юрыдычнага, так і консультацыйнага характару. Выпускаючы гэты бюлетэнь, мы тым самым ідзем таварышом на дапамогу.

У аснову зьместу бюлетэню, які пачынае выдавацца, мы думаем улажыць вузка-ведамасьцьвены характар, асьвятляючы і вырашаючы тыя пытаньні ў працы сыстэмы, якія не заўсёды згуртаваны і раскіданы ў паасобных мясцох.

Загэтым концэнтрацыя ў бюлетэні ўсіх найбольш важных законапалажэньняў, зьвязаных з работай нашай сыстэмы ўказаньняў рэгулюючых органаў, асабліва ў пэрыяд загатоўчай кампаніі, згуртаваньне самых галоўных пытаньняў кіраўніцтва БКС сыстэмай, практыка коопэрацыйнай працы, юрыдычны справачнік і консультацыя па больш важных пытаньнях—бяз сумненьня ў значнай меры палепшыць работу, будзе садзейнічаць у вядомай меры ўздыму агульнай тэхнічнай граматнасьці, асабліва работнікам нізавой сеткі.

Мы таксама хочам, каб у бюлетэні супрацоўнічалі нашы актывісты, нашы работнікі як саюзаў, ЦРК., так і спажыўтаварыстваў. І паколькі вялікага вопыту ў выданьні бюлетэню ў нас яшчэ няма, мы просім нашых работнікаў указаць на магчымыя ў ім тыя ці іншыя недахопы.

Г. Хаскін.



# ПАСТАНОВЫ БЕЛКООПСАЮЗУ

## Аб кантрольных лічбах па коопэраваньні і зборы паёў на 1928-29 год

*Усім організацыям спажыўкоопэрацыі БССР*

У наступным гаспадарчым годзе перад сыстэмай спажывецкай коопэрацыі Беларусі стаіць задача далейшага павышэньня разьмераў фінансаваньня коопэрацыйных зваротаў з мясцовых сродкаў. Курс, які быў узяты ў 27-28 г. ў адносінах да збору паявых капіталаў, неаслабна павінен працягнуцца і ў гэтым годзе.

Спажыўкоопэрацыя БССР на 1-X-29 г. павінна давесьці сярэдні разьмер аплачанага паю да 9 р., лік пайшчыкаў—да 596,8 тыс. чал. За гэтым неабходна ў працягу году коопэраваць 102,5 тысяч чал., уключаючы 50 тыс. беднаты, і сабраць паявых капіталаў у 2.611.000 р.

Па раёнах дзейнасьці асобных саюзаў кантрольна-дырэктыўныя лічбы наступныя: (глядзі табліцу на 3-й стар.).

Пасьпяховасьць выкананьня гэтых задач патрабуе цьвёрдай дысцыпліны і напружанай працы ўсяго коопэрацыйнага апарату. Неабходна весьці шырокую грамадзкую працу на вёсцы, неабходна цьвёрда праводзіць у жыцьцё ўсе мэтады матэрыяльнай зацікаўленасьці пайшчыкаў. У кожным коопэратыве павінны быць вызначаны цьвёрда тэрміны ліквідацыі запазычанасьці кожнаму пайшчыку, уведзены сыстэматычны кантроль за сваечасовым выкананьнем кожным пайшчыкам сваіх абавязкаў.

Увесь коопэрацыйны апарат і коопактыў павінны энэргічна заняцца работай па павялічэньню паявых сродкаў сваёй організацыі.

Спажыўсаюзы павінны вызначыць кожнаму спажыўтаварыству цьвёрдую суму паявых капіталаў, падлягаючых збору і лік пайшчыкаў, які неабходна коопэраваць, выходзячы з таго, што кожны пайшчык, які лічыўся на 1-ае кастрычніка 1928 г., павінен да 1-га кастрычніка 29 г. унесьці поўны пай; пайшчыкі, якія ўступілі ў працягу году, павінны ў сярэднім мець най 8—9 руб.; пайшчыкі, якія коопэраваны за лік ФКБ—у сярэднім—5 руб.

З мэтай вучоту і для магчымасьці кіраўніцтва справай збору паёў і коопэраваньня з 1-X-28 г. уводзяцца ў жыцьцё іх дзесяцідзёўкі.

Справа збору паявых капіталаў павінна быць шырока популярызавана сярод пайшчыкаў і насельніцтва з тым, каб агульнымі сіламі коопэрацыйнага апарату, актыву і спажыўцоў пасьпяхова выканаць гэту адказную задачу.

**Оргкіраўніцтва Белкоопсаюзу.**

№ 9967—22/IX-28 г.

| | Сярэдні пай. | | Паявы капітал у тыс. руб. | | | Пайшчыкі ў тыс. | | | Коопэр. | | Лік гаспадар. | | Задаўне па збору паеў у 1 кв. у тыс. руб. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | На 1-X 28 г. | На 1-X 29 г. | На 1-X 28 г. | Падлягае збору ў 28-29 г. | На 1-X 29 г. | На 1-X 28 г. | Падлягае коопэр. у 28-29 г. | На 1-X 29 г. | 1-X 28 г. | 1-X 29 г. | На 1-X 28 г. у тысячах | На 1-X 29 г. у тысячах | |
| 1. Белкоопсаюз: | | | | | | | | | | | | | |
| Менск | 5—27 | 9—25 | 398,0 | 443,8 | 841,8 | 75,5 | 15,5 | 91,0 | 59,4 | 70,8 | 127,1 | 128,4 | 177,5 |
| Слуцак | 5—45 | 9—25 | 150,0 | 205,2 | 355,2 | 27,5 | 10,9 | 38,4 | 48,4 | 66,9 | 56,8 | 57,4 | 82,0 |
| Усяго | 5—32 | 9—25 | 548,0 | 649,0 | 1197,0 | 103,0 | 26,4 | 129,4 | 56,0 | 69,6 | 183,9 | 185,8 | 259,6 |
| 2. Бабруйск | 4—74 | 8—50 | 275,0 | 286,0 | 561,0 | 58,0 | 8,0 | 66,0 | 60,3 | 68,5 | 96,2 | 97,1 | 114,4 |
| 3. Віцебск | 5—95 | 9—25 | 655,0 | 519,7 | 1174,7 | 110,0 | 17,0 | 127,0 | 62,9 | 72,0 | 174,7 | 176,5 | 207,9 |
| 4. Гомель | 6—76 | 9—33 | 690,0 | 497,8 | 1187,8 | 102,0 | 25,3 | 127,3 | 34,3 | 67,1 | 187,8 | 189,7 | 199,1 |
| 5. Дняпросаюз | 4—85 | 8—50 | 385,0 | 658,5 | 1243,5 | 120,5 | 25,8 | 146,3 | 46,8 | 56,3 | 257,4 | 260,0 | 263,4 |
| Па БССР | 5—58 | 9—00 | 2753,0 | 2611,0 | 5364,0 | 493,5 | 102,5 | 596,0 | 54,8 | 65,6 | 900,0 | 909,0 | 1044,4 |

# Аб праверцы скарачэньня выдаткаў

У зьвязку са скачнэньнем гаспадарчага году, усе організацыі павінны праверыць выкананьне дырэктывы аб 20-проц. скарачэньні адміністрацыйна-кіраўнічых выдаткаў.

Прынцып праверкі і тэхнічнае афармленьне таблічнага матэрыялу па лініі саюзу і ЦРК павінен адбіць зьмену ў выдатках па трох наступных групах:

а) адміністрацыйна-кіраўнічыя выдаткі,

б) гандлёва-опэрацыйныя выдаткі,

в) незалежныя выдаткі.

Прынцып разьмеркаваньня выдаткаў па групах паказан у адносьніку Б. К. С. № 4357 ад 27-IV-28 г. і Белрабсэкцыі № 4726 ад 26-IV-28 г.

Усе выдаткі па саюзах і ЦРК, па гэтых асноўных групах, з падрабязным намэнклатурным пералікам унутры кожнай групы, ёсьць у табліцы за 1926-27 г. і за 27-28 г. і ўстанаўляецца сума абсалютнай зьмены фактычных выдаткаў за 1927-28 г. супроць выдаткаў папярэдняга году. Каштарысы выдаткаў на 1928-29 г. будуюцца па такому-ж самаму прынцыпу, вымагаючы ад організацый, асабліва ад тых, якія не далі патрэбнага скарачэньня ў 1927-28 годзе, належнага скарачэньня адміністрацыйна-кіраўнічых выдаткаў.

Спажывецкія таварыствы робяць праверку скарачэньня выдаткаў па форме каштарысу надрукаванага ў блянку «Плян (кантрольныя лічбы)». У саюзы спажывецкія таварыствы павінны прадстаўляць па гэтай форме выканаўчы каштарыс фактычных выдаткаў за 1927-28 г. і каштарыс выдаткаў за 1928-29 год.

У саюзе ўтвараецца зводка па ўсёй сетцы, праводзіцца параўнаньне з фактычнымі выдаткамі за 1926-27 год, і ўстанаўляюцца разьмеры абсалютнага і адноснага скарачэньня выдаткаў.

У працы па праверцы скарачэньня выдаткаў і разгляду каштарысу выдаткаў на новы гаспадарчы год павінны прыняць актыўны ўдзел рэвізыйныя камісіі Саюзаў, ЦРК і спажывецкіх таварыстваў.

№ 9889—21-IX—28.

**Оргкіраўніцтва БКС.**

---

# Аб тэрміне ўзносу ва Ўсекобанк запасных капіталаў

Адлічэньні ў запасныя капіталы ня менш 10 проц. ад прыбыткаў па балянсу за 26-27 г. павінны быць увесены ва Ўсекобанк праз Саюзы Спажывецкае Коопэрацыі не пазьней 1-га кастрычніка 1928 г. Пасьля гэтага тэрміну яны спаганяюцца праз фінорганы прымусовым парадкам, як і нядоімкі па налогам. Гэтыя адлічэньні ўносяцца ўсімі коопэрацыйнымі організацыямі, якія мелі прыбыткі за 26-27 г., ня гледзячы на тое, былі зроблены адлічэньні пры разьмеркаваньні прыбыткаў ці не.

---

# Аб растратах у спажывецкай коопэрацыі

## Усім Спажыўсаюзам і Аддзяленьням

Зьмяшчаючы ніжэй пастанову паводле нашага дакладу ў калегіі НК РСІ БССР, прапануецца Вам распрацаваць, выходзячы з гэтай пастановы, шэраг практычных мерапрыемстваў з мэтай папярэджаньня і зьнішчэньня растрат і пакражаў па вашай сетцы.

№ 9966—22-IX—28 г.

Заг. Оргкіраўніцтвам БКС **Хаскін.**

Сакратар **Садоўскі.**

# Пастанова НК РСІ БССР ад 6-IX-28 г.

Заслухаўшы даклад аб растратах і пакражах у нізавой сетцы спажывецкай коопэрацыі БССР, Калегія НК РСІ адзначае павялічэньне растрат за апошнія кварталы 1927-28 году ў параўнаньні з гэтым пэрыядам 1926-27 г. і што найбольшая колькасьць растрат падае не на выбарчы, а на наняты пэрсанал (прыказчыкі), што тлумачыцца:

а) недастатковай увагай да справы падбору работнікаў, асабліва наёмнага пэрсаналу і слабасьцю кантролю, як з боку спажыўсаюзаў і аддзяленьняў, так і з боку рэўкамісій;

б) слабым завостраньнем грамадзкай думкі вакол пытаньняў растрат і несваечасовай перадачай спраў у судовыя органы, а таксама несваечасовым разглядам іх судовымі органамі, дзякуючы чаму разглядаемыя позна судовыя справы ня маюць таго значэньня, якое яны павінны былі мець;

в) мясцовыя рэўкамісі, дзякуючы слабай рабоце, а таксама недастатковай іх кваліфікацыі, не маглі сваечасова выяўляць растратчыкаў, якія ўжывалі шэраг камбінацый, не заўсёды прыкметных для слаба падрыхтаваных сяброў рэўкамісій;

г) уся сыстэма спажывецкай коопэрацыі за апошні год пытаньнямі барацьбы з растратамі займалася недастаткова;

д) дзякуючы недастатковай падрыхтаванасьці рахунковых работнікаў спажывецкіх таварыстваў, ствараюцца ўмовы, спрыяючыя растратам.

Загэтым у далейшым неабходна:

1. Белкоопсаюзу і Райспажыўсаюзам зьвярнуць увагу на лепшы падбор работнікаў для спажывецкіх таварыстваў, у асаблівасьці прыказчыкаў. Надыходзячую перавыбарчую кампанію скарыстаць для высоўваньня больш падрыхтаваных людзей у сябры праўленьняў і рэўкамісій і ў працягу работы ўздымаць іх кваліфікацыю.

2. Узмацніць працу інструктарскага апарату па правядзеньню сыстэматычных рэвізій спажывецкіх таварыстваў; увесьці, як правіла, што кожнае спажывецкае таварыства павінна быць абрэвізавана з боку Саюзу, ці аддзяленьня ня менш, як адзін раз у год.

3. Рэвізійным камісіям узмацніць сваю работу па сыстэматычнай праверцы становішча спажывецкіх таварыстваў, уцягваючы ў сваю работу шырокія колы коопэрацыйнага актыву.

4. Вакол кожнага факту растраты ствараць грамадзкую думку, шляхам асьвятленьня ў друку, праз сходы пайшчыкаў і ўпаўнаважаных і шырокага асьвятленьня перад пайшчыкамі вынікаў рэвізіі і прыцягненьнем іх для ўдзелу ў рэвізіях коопэратыву.

5. Н. К. Ю. зьвярнуць увагу судовых органаў на больш хуткі разгляд спраў растратчыкаў, ствараючы вакол характэрных фактаў грамадзкую думку, шляхам разгляду спраў на мясцох з шырокім прыцягненьнем насельніцтва.

6. Белкоопсаюзу сачыць за тым, як выконваецца на мясцох грамадзкі іск спажыўтаварыстваў да растратчыкаў.

7. Белкоопсаюзу даць паказаньні сетцы аб узмацненьні нагляду за гандлёвымі памяшканьнямі, з мэтай аховы іх ад пакраж.

8. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўздым кваліфікацыі рахунковых работнікаў і на палепшаньне пастаноўкі рахункаводзтва.

---

# Аб кніжным гандлі ЦРК

Паводле пастановы апошняга сходу ўпаўнаважаных Белкоопсаюзу, уся коопэрацыйная сыстэма, у тым ліку і рабочая коопэрацыя, у 1928-29 годзе на 100 проц. павінна быць ахоплена кніжным гандлем.

Ужо шмат ЦРК пачалі разгортваць кніжны гандаль. Рэчыцкі ЦРК пачаў працу з мінулага вучэбнага сэзону, Менскі ЦРК зараз адчыніў кніжны магазын для Барысаўскага ЦРК БКС падрыхтоўвае два кніжных магазыны, адзін з іх у рабочым раёне.

Трэба адзначыць, што ў сучасны момант гандаль кнігамі зьяўляецца ўпаўне рэнтабельным. (Зварот непрададзеных кніг, вялікі проц. скідкі, 6-месячны крэдыт і інш.).

На гэты гандаль вылучан кніжны фонд пакуль што ў 145.000 руб. і па меры разьвіцьця кніжнага гандлю гэты фонд будзе павялічвацца.

У сучасны момант мы лічым неабходным, каб ЦРК правялі наступныя мерапрыемствы:

1. Тыя ЦРК, якія маюць зараз пісьмова-папяровыя магазыны, павінны адчыніць пры іх кніжныя аддзелы.

2. Тыя ЦРК, якія ня маюць кніжна-папяровых магазынаў, павінны весьці падрыхтоўку да адчыненьня такіх.

Пры разгортваньні гэтай працы ЦРК павінны ўвязваць сваю працу на месцы з кніжнымі базамі спажыўсаюзаў.

**Праўленьне Белкоопсаюзу.**

# Аб акцызных патэнтах на 1928-29 год

На падставе пастановы ЦВК і СНК СССР ад 1-VIII-1928 г. (Изв. ЦИК от 25-VIII-1928 г. № 197 і Изв. НКФ СССР, 1928 г., № 48, стар. 1585) акцызны патэнтны збор з 1-X-28 г. уплачваецца ў наступным парадку:

Кожнае прадпрыемства, якое займаецца гандлем ніжэй адзначанымі падакцызнымі таварамі, выбірае акцызныя патэнты:

## Гадавая стаўка патэнтнага збору (у рублёх).

| | Менск, Віцебск, Гомель (2-ая кляса) | Бабруйск, Магілеў, Ворша (3-я кляса) | Усе астатнія гарады і мястэчкі (4-я кляса) | Вясковыя мясцовасьці (5-я кл.) |
|---|---|---|---|---|
| **А. На права гандлю хлебным вінам, вінаграднаю гарэлкай, гарэлачнымі вырабамі і каньяком.** | | | | |
| 1. З базісных і аптовых складаў . | 200 | 150 | 100 | 70 |
| 2. Пры дробным гандлі: | | | | |
| а) На вынас . . . . . | 100 | 60 | 40 | 20 |
| б) Расьпівачна па вольных цэнах | 600 | 450 | 350 | 250 |
| в) Таксама на станцыях чыгунак | 150 | 100 | 75 | 50 |
| г) Таксама з буфэтаў на часовых выстаўках, базарах, гульбішчах у працягу ня больш 15 дзён за кожны дзень гандлю . . | 5 | 4 | 3 | 2 |
| д) Расьпівачна ў запячатанай пасудзе, а для хлеб. віна па этыкетнай цане . . . . . | 150 | 100 | 75 | 50 |
| **Б. На права гандлю півам:** | | | | |
| 1. З аптовых складаў . . . | 60 | 40 | 30 | 20 |
| 2. Пры дробным гандлі: | | | | |
| а) На вынас . . . . . . | 30 | 20 | 15 | 10 |
| б) Расьпівачна . . . . . | 60 | 40 | 30 | 20 |
| в) з буф. на часовых выстаўках, баз. і гульбішчах у працягу ня больш 15 дзён за кожны дзень гандлю . . . . . . | 3 | 2 | 1.50 | 1 |
| **В. На права гандлю табакам і табач. вырабамі:** | | | | |
| 1. Пры аптовым гандлі . . . | 30 | 20 | 15 | 10 |
| 2. Пры дробным гандлі . . . | 20 | 15 | 10 | 6 |
| 3. Пры дробным гандлі ў развоз і разнос. . . . . . | 6 | 4 | 3 | 2 |

Заўвагі: 1) Акрамя гэтых ставак выплачваюцца наступныя: надбаўкі 100 проц. у мясцовыя сродкі па ўсіх патэнтах і асобна на ліквідацыю няпісьменнасьці: па патэнтах на гарэлку, гарэлачныя вырабы і піва 25 проц., па патэнтах на табачныя вырабы 10 проц.

2) **Расьпівачны** ў разьліў і па вольных цэнах гандаль хлебным, віном і гарэл. вырабамі ў мясцовасьцях 4 і 5 клясаў адчыняецца кожны раз з дазволу Акруг. Адм. Аддзелаў па ўзгадненьню з Грашовымі Аддзеламі.

3) Прадпрыемствы, якія атрымалі патэнты на гандаль хлебным віном і гарэлачнымі вырабамі, аслабаняюцца ад уплаты акцызнага патэнтнага збору за гандаль півам.

4) Гандаль вінаградными і ягаднымі вінамі дазваляецца бяз выбаркі акцызных патэнтаў.

5. Прадпрыемствы, у якіх вядзецца гандаль хлебным віном, гарэлачнымі вырабамі расьпівачна, абавязаны выбіраць акцызны табачны патэнт па стаўках для розьнічнага гандлю, незалежна ад таго, прадаюцца ў іх табачныя вырабы ці не.

6. Гадавыя акцызныя патэнты выбіраюцца да 1-Х-28 г., а для прадпрыемстваў, якія адчыняюцца ўпяршыню, да пачатку апэрацый. Для прадпрыемстваў, пачынаючых гандаль у другім паўгодзьдзі акладнога году—выбіраюцца паўгадавыя патэнты.

7. Аптовым гандлем табачнымі вырабамі лічыцца гандаль імі, які вытвараецца ў прадпрыемствах, якія ў 27-28 г. па прамналогу былі аднесены да ІУ, У і УІ разрадаў гандлёвых прадпрыемстваў.

8. Для атрыманьня акцызнага, патэнту трэба прадставіць рэгістрацыйнае пасьведчаньне, прадугледжанае палажэньнем аб прамналогу.

9. Спажывецкія таварыствы ў вясковых мясцовасьцях, якія ўпяршыню пачынаюць гандляваць хлебным віном, а таксама тыя, у якіх зварот за папярэдні год не перавысіў 20.000 р., ня ўключаючы ў гэту суму выручкі ад продажу хлебнага віна,—аслабаняюцца ад выбаркі акцызнага патэнту на гандаль хлебным віном. На гандаль іншымі гарэлачнымі вырабамі і півам яны павінны выбіраць акц. патэнты на агульных падставах.

---

# Усім ЦРК і гарадзкім спажыў-таварыствам

Белрабсэкцыя лічыць неабходным устанавіць для бухгальтэрскага вучоту тары на тарным складзе і ў магазынах (як тавар) наступныя ўмоўныя цэны:

Мяшкі цукровыя і рысавыя — — — 50 кап.
„ мучныя — — — — — 35 „

Кадушкі і каштоўныя стандартныя скрынкі—у 75 проц. іх арыентыровачнай прадажнай цаны.

Па гэтых цэнах Вы павінны запісваць тару на магазыны (як тавар) і на тарны склад, пры наяўнасьці такога, і лічыць яе ва балянсах. Усякая іншая тара па балянсу зусім ня вучытваецца.

Старшыня Прэзыдыуму Белрабсэкцыі **Кумкес.**

№ 10001—24-IX-28 г. Інструктар **Рубін.**

---

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Аб укладных опэрацыях спажывецкіх таварыстваў

*(Пастанова Савету Народных Камісараў БССР).*

Савет Народных Камісараў БССР **пастанаўляе:**

1. Спажывецкія коопэратывы маюць права прымаць уклады толькі ад сваіх членаў.

2. Уклады прымаюцца выключна грашыма, на вызначаны тэрмін, альбо на тэрмін да запатрабаваньня.

3. Укладныя дакумэнты (укладныя кніжкі) могуць быць, калі захоча ўкладчык, выпісаны на імя яго самога, альбо іншай асобы, ці на паказчыка.

4. Уклады выдаюцца тэй асобе, па імя якой выдадзена ўкладная кніжка; калі-ж яна выдадзена на паказчыка, дык—паказчыку кніжкі.

5. Уклад можа быць прыняты спажывецкімі коопэратывамі на ўмовах выдачы яго пасьля сьмерці ўкладчыка, паказанай пры ўнясеньні ўкладу асобе, незалежна ад таго, ці ўваходзіць гэта асоба ў склад законных насьледнікаў укладчыка.

6. Усе разрахункі па ўкладах захоўваюцца ў тайне ад староньніх асоб. Усякія даведкі аб укладчыках і ўкладах выдаюцца толькі самім укладчыкам, іх законным прадстаўнікам, а таксама судовым і судова-сьледчым органам па крымінальных справах.

7. Прэтэнзіі ўкладчыкаў, калі не хапае маёмасьці спажывецкага коопэратыву для задавальненьня прэтэнзій усіх крэдытораў, задавальняюцца зараз-жа пасьля выплаты рабочым і служачым заработнай платы, пэнсіі за калецтва і сьмерць і сацыяльнага страхаваньня.

8. Спагнаньні з укладаў і арышты іх могуць рабіцца паводле пастаноў судовых і судова-сьледчых органаў толькі па крымінальных справах, а таксама па справах аб спагнаньнях на карысьць самога спажывецкага коопэратыву, які прыняў уклад.

9. Даручаецца Народнаму Камісарыяту Фінансаў разам з Белкоопсаюзам на працягу аднаго месяца падаць праэкт пастановы пра ўтварэньне гарантыі для забесьпячэньня зьвярненьня ўкладаў па запатрабаваньню ўкладчыкаў, а таксама выдаць інструкцыю для ўжываньня гэтае пастановы.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **М. Галадзед.**

Нам. Кіраўніка Спраў Савету Народных Камісараў і
і Эканом. Нарады БССР **Л. Дубавіцкі.**

17 верасьня 1928 г.
г. Менск.

(«Савецкая Беларусь» ад 19-IX-28 г. № 216).



## О вкладных операциях кооперативных организаций, действующих не на основании положения о кооперативном кредите*)

*(Постановление Совета Народных Комиссаров Союза ССР)*

Совет Народных Комиссаров Союза ССР постановляет:

1. Потребительские, а также сельско-хозяйственные и промысловые кооперативные организации, на которые не распространяется положение о кооперативном кредите, могут принимать вклады только от своих членов.

2. Размер процентов по вкладам в кооперативные организации, указанные в ст. I, не должен превышать в сельских местностях, в которых есть сельско-хозяйственные кредитно-кооперативные товарищества, размера процентов по вкладам в эти товарищества. Во всех остальных случаях он не должен превышать 12% годовых.

3. На Народный Комиссариат Финансов Союза ССР и народные комиссариаты финансов союзных республик, по принадлежности, возлагается наблюдение за ведением указанными в ст. I кооперативными организациями вкладных операций, для чего им предоставляется право обследования этих операций.

Зам. Председателя Совета Народных Комиссаров Союза ССР
и СТО **В. ШМИДТ.**

Зам. управделами Совета Народных Комиссаров Союза ССР
и СТО **И. МИРОШНИКОВ.**

Москва, Кремль, 16 августа 1928 г.
(«Известия ЦИК» 16-IX-28 г. № 216).

---

## Тлумачэньні Оргкіраўніцтва БКС да пастаноў аб укладных опэрацыях

1) Гэтымі дзьвума пастановамі ўносіцца поўная яснасьць у пытаньне аб укладах у спажывецкіх коопэратывах. Пастановаю СНК БССР ад 17-IX-28 г. уклады і ўкладчыкі спажывецкіх коопэратываў карыстаюцца ўсімі гарантыямі, якія ўстаноўлены для ўкладчыкаў крэдытных таварystваў. З гэтых гарантый неабходна асабліва адзначыць наступныя: а) прэтэнзіі ўкладчыкаў спажывецкіх таварystваў здавальняюцца ў першую чаргу перад патрабаваньнямі іншых дзяржаўных і коопэрацыйных організацый: усякія падаткі і даўгі спажывецкага таварыства ў тым ліку даўгі банкам забясьпечаныя і незабясьпечаныя залогам, даўгі коопэрацыйным Саюзам і г. д. выплачваюцца пасьля таго, як будуць здаволены поўнасьцю ўсе ўкладчыкі (арт. 7 паст.);

---

*) На падставе „палажэньня аб коопэрацыйным крэдыце“ ад 18 студзеня 1926 г. (З. З. СССР 1927 г. № 4, арт. 44) дзейнічаюць сельска-гаспадарчыя крэдытныя т-вы і іх Саюзы і прамысловыя крэдытныя т-вы і іх Саюзы; ні на якія іншыя коопэрацыйныя арганізацыі гэтае палажэньне не распаўсюджваецца.

б) акрамя гэтага будзе складзены асобны гарантыйны фонд для забесьпячэньня ўкладчыкаў (арт. 9 паст.) і в) уклады ў спажывецкіх таварыствах ня могуць быць забраны ні на якія даўгі ўкладчыка, акрамя тых даўгоў яго, якія вынікаюць на падставе судовых загадаў і выканаўчых лістоў па крымінальных справах укладчыка, напрыклад: укладчык украў дзе-небудзь грошы і палажыў іх у спажывецкія таварысты і г. д. 2) На паставе арт. 9 пастановы будзе выдадзена тэхнічная інструкцыя аб парадку прыёму, хаваньня і звароту ўкладаў у сп. т-вах; да яе выданьня сп. т-ва і ЦРК павінны кіравацца тымі ўказаньнямі і інструкцыямі, якія былі ім дадзены Саюзамі і Белрабсэкцыяй.

---

## Аб узаемаадносінах рэспубліканскіх і мясцовых органаў улады з кооперацыяй і аб адказнасьці гэтых органаў за страты кооперацыі ад іх незаконных загадаў кооперацыйным арганізацыям

*(Пастанова ЦВК і СНК БССР)*

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР **пастанаўляюць:**

1. Забараніць усім ведамствам і мясцовым органам улады:

а) загадваць кооперацыйным організацыям рабіць выдаткі, не прадугледжаныя законамі альбо абавязковымі пастановамі акруговых выканаўчых камітэтаў;

б) даваць кооперацыйным організацыям заданьні, не прадугледжаныя плянамі іх дзейнасьці, без паказаньня крыніц сродкаў, за якія данае заданьне можа быць выканана;

в) загадваць кооперацыйным організацыям уваходзіць членамі ў іншыя організацыі і ўкладваць у гэтыя організацыі сродкі.

2. Забараніць не ўпаўнаважаным на гэта органам улады ўсякае ўмешваньне ў работу кооперацыйных організацый.

3. За парушэньне артыкулаў 1 і 2 гэтай пастановы службовыя асобы адказваюць у крымінальным парадку.

4. За страты кооперацыйных організацый ад парушаючых гэтую пастанову няправільных дзеяньняў службовых асоб, калі няправільнасьць дзеяньняў будзе ўстаноўлена судом, орган улады адказвае паводле артыкулу 449 Грамадзянскага Кодэксу.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР
**А. Чарвякоў.**

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР
**М. Галадзед.**

Ч. вык. аб. Сакратара Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту БССР **А. Сташэўскі.**

14 чэрвеня 1928 г.
г. Менск.

Апублікавана ў № 142 газэты „Савецкая Беларусь“ 22 чэрвеня 1928 г.

## О введении в действие положения о государственном промысловом налоге

*(Постановление ЦИК и СНК Союза ССР)*

Центральный Исполнительный Комитет и Совет Народных Комиссаров Союза ССР постановляет:

1. Утвержденное сего числа положение о государственном промысловом налоге ввести в действие с 1928-1929 окладного года.

2. Налог с обращения ценностей и надбавка в местные средства к окладам промыслового налога отменяются. Указанная надбавка заменяется отчислениями в местные средства от поступлений по промысловому налогу.

3. Установить на 1928-1929 окладной год в из'ятие из ст. ст. 29 и 30 упомянутого в ст. 1 положения следующий порядок и сроки уплаты авансов в счет окладов налога.

1) Государственные предприятия и кооперативные организации уплачивают авансы в размере оклада налога, исчисляемого с оборота за 1927-1928 год, по правилам утвержденного сего числа положения, в следующем порядке:

а) при выборке регистрационных удостоверений до начала окладного года вносится 50 проц., не позднее 15 ноября—40 проц. и не позднее 15 февраля—55 проц. основного оклада уравнительного сбора (до зачета патентного сбора) за 1927-1928 год;

б) разница между окладом, исчисленным с оборота за 1927-28 г.г. и суммой авансов первых трех сроков (п. «а»), вносится равными частями не позднее 15 мая и 15 июля.

2) Частные предприятия уплачивают авансы в размере оклада налога, исчисляемого с оборота за 1927-1928 год по правилам утвержденного сего числа положения, в следующем порядке:

а) при выборке регистрационных удостоверений до начала окладного года вносится 50 проц., не позднее 15 ноября и 15 января—по 55 проц. основного оклада уравнительного сбора (до зачета патентного сбора) за 1927-1928 год;

б) разница между окладом, исчисленным с оборота за 1927-1928 г.г. и суммой авансов первых трех сроков (п. «а»), вносится равными частями не позднее 15 марта и 15 июня.

4. Установить в 1928-1929 году распределение подлежащих передаче в местные средства сумм налога с предприятий, облагаемых в централизованном порядке, между округами (губерниями) пропорционально общей стоимости патентов, выбранных в 1927-1928 году на находящиеся в данном округе (губернии) оперативные единицы этих предприятий.

5. Поручить Народному Комиссариату Финансов Союза ССР:

а) внести в двухнедельный срок на рассмотрение Совета Народных Комиссаров Союза ССР проекты постановлений об изменении положения о бюджетных правах Союза ССР и союзных республик и положения о местных финансах;

б) представить в двухмесячный срок на утверждение Совета Народных Комиссаров Союза ССР перечень узаконений Союза ССР, утрачивающих силу с введениями в действие упомянутого в ст. 1 положения, а равно изменения в действующем законодательстве, вытекающее из этого положения (кроме указанных в п. „а“);

в) внести в трехмесячный срок в Совет Народных Комиссаров Союза ССР проект постановления о порядке распределения сумм налога, поступающих с предприятий, облагаемых в централизованном порядке, между округами (губерниями).

Предложить Советам Народных Комиссаров союзных республик:

а) пересмотреть в месячный срок льготы по налогу, предусматривавшиеся в ст. ст. 31, 49, 51, 52, 54, 55, 56, 57, 58, 59, 60, 63, 71 и 82 перечня из‘ятий и льгот от 14 декабря 1927 года и не включенные в прилагаемый к упомянутому в ст. 1 положению, перечень, с тем, чтобы льготы, сохранение которых будет признано целесообразным, были установлены в порядке ст. 41 упомянутого положения о государственном промысловом налоге от сего числа;

б) издать в двухмесячный срок перечни утрачивающих силу с введением в действие упомянутого положения узаконений союзных республик и внести соответственные изменения в законодательство республик.

Председатель ЦИК Союза ССР **А. Червяков.**

Председатель СНК Союза ССР **А. И. Рыков.**

Секретарь ЦИК Союза ССР **А. Енукидзе.**

Москва, Кремль.
10 августа, 1928 г.

Распубликовано в № 187 „Известий ЦИК Союза ССР“ и ВЦИК от 14 августа 1928 г.

---

# Положение о государственном промысловом налоге

## 1. Общие положения

1. Все предприятия (в том числе кооперативные организации), а также поименованные в прилагаемом расписании (приложение 1) личные промыслы подлежат обложению государственным промысловым налогом.

2. Налогом облагаются обороты предприятий и организаций (ст. 1) за текущий окладной год. Размер налога определяется в процентном отношении к обороту. Для личных промыслов (приложение 1) размер налога определяется в твердых ставках.

3. Обложение налогом производится:

а) государственных предприятий, союзов кооперативов, акционерных обществ, товариществ с ограниченной ответственностью, банков и обществ взаимного кредита—особыми налоговыми комиссиями по местонахождению правления предприятий по совокупности оборотов всех входящих в его состав оперативных единиц (централизованный порядок);

б) всех прочих предприятий—участковыми налоговыми комиссиями по обороту каждого предприятия в отдельности (общий порядок).

**Примечание.** Под оперативными единицами подразумеваются отдельные фабрики, заводы, мастерские, магазины, конторы, отделения и т. п., входящие в состав предприятия, облагаемого в централизованном порядке, а равно правление его.

При обложении в общем порядке каждая фабрика, завод, мастерская, магазин, контора, отделение и т. п. признается отдельным предприятием.

Не связанные с деятельностью предприятия поставки и подряды приравниваются к отдельным предприятиям.

4. Народному Комиссариату Финансов Союза ССР в отношении предприятий общесоюзного значения или предприятий, имеющих оперативные единицы в двух или нескольких союзных республиках, предоставляется право по ходатайствам этих предприятий:

а) устанавливать для предприятий, перечисленных в п. «а» ст. 3, обложение в централизованном порядке по районам по местонахождению районных отделений или контор при наличии в этих отделениях или конторах централизованного по району счетоводства;

б) устанавливать для отдельных предприятий, перечисленных в п. „а“ ст. 3, а также для отдельных оперативных единиц, входящих в состав этих предприятий, обложение в общем порядке с выделением в последнем случае оборотов этих единиц из оборота предприятия;

в) устанавливать обложение в централизованном порядке прочих, сверх перечисленных в п. «а» ст. 3 предприятий.

5. В отношении предприятий республиканского значения или предприятий, имеющих оперативные единицы в двух или нескольких округах (губерниях) одной союзной республики, указанные в ст. 4 права предоставляются народному комиссариату финансов соответствующей союзной республики.

В отношении предприятий местного значения, район деятельности которых ограничен пределами одного округа (губернии), предусмотренное ст. 4 право предоставляется окружным (губернским) финансовым отделам.

**Примечание.** Предусмотренные ст. 5 и последующими статьями настоящего положения права и обязанности окружных и губернских финансовых отделов распространяются также на народные комиссариаты финансов автономных республик, не имеющих губернского (окружного) деления, и областные финансовые отделы автономных областей, а в Закавказской Социалистической Федеративной Советской Республике— на народные комиссариаты финансов советских социалистических республик Грузии, Армении и Азербейджана.

Под окружными финансовыми отделами в настоящем положении разумеются финансовые отделы округов в районированных местностях.

## II. Облагаемый оборот

6. Облагаемым оборотом государственных предприятий признается:

а) для товарных оборотов за исключениями, предусмотренными последующими пунктами настоящей статьи,—сумма валовой выручки по продаже товаров;

б) для оборотов промышленных предприятий, занимающихся производством изделий из чужих материалов,—сумма валовой выручки, не считая стоимости чужого материала;

в) для посреднических, и в том числе комиссионных, оборотов— сумма посреднического вознаграждения;

г) для оборотов кредитных учреждений—сумма начисленных процентов, комиссии, провизии и других валовых прибылей, а для их товарных оборотов, производимых за свой счет,—сумма валовой выручки по продаже товаров (п. «а»);

д) для оборотов по подрядам—сумма их исполнения;

е) для оборотов синдикатов по оптовой реализации продукции своих членов—надбавка, сделанная синдикатом к суммам, уплачиваемым к членам, вне зависимости от формы сделки и условий расчета;

ж) для оборотов нетоварного характера—сумма валовой выручки.

**Примечание.** К валовой выручке относятся: суммы, поступившие наличными деньгами, стоимость товаров, полученных при реализации путем обмена, а равно суммы (стоимость товаров), причитающиеся за реализованные в кредит товары или выполненные в кредит услуги.

7. Облагаемым оборотом кооперативных организаций признается:

а) для товарных оборотов первичных кооперативных организаций—сумма валовой выручки по продаже товаров, за свой счет на сторону, за исключением оборотов по продаже товаров, переданных для реализации на комиссионных началах вышестоящим кооперативным организациям по прямой линии той же системы;

б) для товарных оборотов кооперативных союзов: 1) по оптовой продаже товаров, полученных со стороны или от вышестоящей кооперативной организации той-же системы, или товаров собственного производства, если они проданы за свой счет на сторону,—сумма валовой выручки; 2) по оптовому сбыту за свой счет товаров, полученных от нижестоящих кооперативных организаций по прямой линии той же системы,—разница между ценой, по которой товар данным звеном реализован и ценой, по которой товар этим звеном получен; 3) по оптовому сбыту товаров, полученных от нижестоящих кооперативных организаций по прямой линии той же системы для реализации на комиссионных началах,—сумма комиссионного вознаграждения; 4) по заготовке товаров нижестоящими кооперативными организациями на комиссионных началах по поручениям вышестоящих кооперативных организаций по прямой линии той же системы—сумма комиссионного вознаграждения; 5) по сбыту товаров, приобретенных со стороны вышестоящим кооперативным организациям по прямой линии той же системы—разница между ценой, по которой товар данным звеном реализован, и ценой, по которой этот товар приобретен на стороне; 6) по розничной продаже товаров, полученных со стороны или от кооперативных организаций той же системы, или товаров собственного производства, независимо от того, производится ли продажа за свой счет или на комиссионных началах—сумма валовой выручки;

в) для посреднических, в том числе комиссионных, оборотов кооперативных организаций всех степеней по продаже товаров по поручению сторонних лиц и организаций—сумма посреднического вознаграждения;

г) для оборотов кооперативных организаций всех степеней по выполнению ими работ или оказанию услуг для сторонних лиц и организаций—сумма вознаграждения за указанные работы или услуги.

**Примечание.** Валовая выручка определяется в порядке прим. к ст. 6.

*(Продолжение в следующем номере).*

# ХРОНІКА

## Па Белкоопсаюзу.

▽ Белкоопсаюз зьвярнуўся ў НК Гандлю БССР з хадайніцтвам аб выданьні пастановы пра забараненьне ТПО прадаваць тавары, на якія чыгуначная коопэрацыя мае льготы па тарыфу пры перавозках па чыгунках, ня членам ТПО.

▽ З мэтай палепшаньня абслугоўваньня сваіх спажывецкіх таварыстваў, менскае аддзяленьне БКС устанавіла пэўныя дні водпуску тавараў для кожнага спаж. т-ва ў паасобку. У адзін дзень будзе вытварацца 10-12 водпускаў.

## Па рабочай коопэрацыі.

▽ Віцебскі ЦРК гэтымі днямі адчыняе дзіцячы сад. Сад разьлічаны на 50 дзяцей пайшчыкаў.

▽ У першых днёх кастрычніка Барысаўскі ЦРК адчыняе каўбасную фабрыку на 10 рабочых. Для гэтай мэты абсталявана новае памяшканьне коштоўнасьцю ў 11 тысяч рублёў.

▽ У сьнежні месяцы г. г. спаўняецца 10 год з дня ўзьнікнавеньня Гомельскага ЦРК. Оргаддзел ЦРК рыхтуецца да сьвяткаваньня юбілею.

▽ Барысаўскі ЦРК у апошні час шырока разгарнуў працу з мясам. Асаблівая ўвага зьвяртаецца на работу з сьвіным мясам. У будучым гаспадарчым годзе прадугледжваецца адчыніць яшчэ 5 мясных крам (цяпер ёсьць 6).

▽ Праз 2 месяцы Гомельскі ЦРК скончыць пабудову вялікага хлебазавода. Сутачная вытворчасьць заводу будзе вызначацца ў 2 тысячы пудоў.

# КОНСУЛЬТАЦЫЯ

## Калі і ў якім разьмеры трэба ўносіць авансы ў лік прамналогу за 1928-29 г.?

Першыя тры ўзносы авансу павінны быць зроблены не пазьней 1-Х, 15-ХІ-28 году і 15-ІІ 1929 году. Гэтыя ўзносы вылічваюцца ад асноўнага акладу ўраўзбору (г. зн. без мясцовае надбаўкі) і да заліку патэнтаў, які былў устаноўлены для кожнага прадпрыемства ў 27-28 г.

Коопэрацыйныя організацыі маюць на руках акладныя лісты па ўраўзбору за 27-28 г. і могуць самі правяраць, ці правільна вылічаны сумы гэтых узносаў фініспэктарам. Толькі для тых прадпрыемстваў, якія адчыніліся ў 27-28 г. і плацілі ўраўзбор не за ўвесь год, а толькі за частку яго, аснаўны аклад уплачанага імі ўзраўзбору павялічваецца да гадавога разьмеру і ад яго бяруцца вышэйадзначаныя 50, 40 і 55 проц.

Дзяржналог СССР растлумачыў, што для коопэрацыі асноўны аклад ураўзбору, ад якого бяруцца 50, 40 і 55 проц., зьмяншаецца на скідку, якая давалася коопэрацыі ў 1927-28 г.

## Ці падлягаюць сацыяльнаму страхаваньню выбарчыя асобы ў вясковых мясцовасьцях?

Саюзны Савет Сац. страхаваньня пры НК Працы СССР 12-УІ-28 г. за № 418 растлумачыў, што асобы, якія займаюць у вясковых мясцовасьцях выбарчыя пасады ў дзяржаўных, грамадзкіх установах і спажывецкай коопэрацыі, не падлягаюць сацыяльнаму страхаваньню, калі яны маюць уласную, або ў складзе сялянскага двара, сялянскую гаспадарку і пры тым атрымліваюць за сваю працу ўзнагароду менш устаноўленага для данае мясцовасьці мінімуму заработнае платы (Изв. НКТ за 1928 г. № 34—35). Мінімум заработнае платы ў вясковых мясцовасьцях Беларусі ўстаноўлены НК Працы БССР восем рублёў у месяц (Пастанова НК Працы ад 24-1-28 г. № 5. Бюл. СНК БССР за 28 г. № 2, стар. 17).

З прычыны таго, што ў спажывецкіх коопэратывах няма працаўнікоў з такім акладам—усе члены праўленьня і рэўкамісій падлягаюць сац. страхаваньню.

Адказны рэдактар—Оргкіраўніцтва БКС.
Выдавец—Белкоопсаюз.

Цана 15 кап.



Менск, 1-я друкарня „БДВ“, з. № 3609. Галоўлітбел № 13.

